ледзь прыкметны дымок пары...

— Га? — адазваўся Хвёдар на прывітанне Змітрака.

— Ты не кепскі скуралуп! Навошта такую добрую карову зарэзаў?

— Як навошта, на мяса, — спакойна адказвае Хвёдар.

— А ведаеш, што дастанеш за разбазарванне жывёлы?

— Жывёла мая. Што хачу тое і раблю.

Хвёдар адразу падняўся, і твар яго зрабіўся сур'ёзным. Не ведаў, як схаваць боты і рукі, запэцканыя ў крыві.

— Эх ты, скуралуп! Раней Сідара некалькі год лупіў, а цяпер вось што ты робіш! Хадзем! Трэба рабіць вопіс тваёй гаспадаркі. Хлопцы, запрэце пуню, каб сабакі не ўлезлі сюды, — звярнуўся Змітрок гаспадарчым тонам.

— Што? Раскулачваеш? — запытаўся Хвёдар змененым раптам голасам, і левая рука ў яго павісла, як чужая.

Змітрок нічога не адказвае.

У хату ідзе ўжо не ранейшы Хвёдар, моцны і ўпэўнены, а чалавек, якога раптам нібы схваціў паляруш. У яго апусцілася галава.

На гумне, нібы дробныя хатачкі з дзіцячых казак, стаяць рамачныя вуллі. Іхнія маленькія стрэшкі абпустаны свежым сняжком. Дзверцы і сценкі вулляў фарбаваны ў зялёны колер. Над вуллямі, нібы белыя пчолы, кружацца-мільгаюць сняжынкі.

— Падлічы, Лявон, вуллі! — загадаў Змітрок аднаму маладому хлапцу з камсамольскай брыгады.

— ... А цяпер так трэба рабіць... — навучаў айцец Дзімітры. — Зараз-жа, пакуль не выслалі, падацца ў калгас. Усім нашым гаварыце, каб ішлі... А далей відаць будзе. Трэба, каб калгасы апынуліся ў нашых руках... Вы разумееце?

— Разумею... — кажа Слуп.

— Разумеем яшчэ як... — дадае Бочка. — Нас дык, мабыць, не прымуць, але іншых з нашых возьмуць.

Той самы маленькі пакойчык. Тая самая лямпа на стале.

«Матушка» слухае вельмі зацікаўлена. Жвавы кот грае фрэнзлямі сарвэткі, якія вісяць з камоды.

Мала таго, што акяніцы зачынены, вокны шчыльна завешаны тканінамі.

На дварэ сеецца дробны снег, пытлюецца, пыліцца і туліцца каля платоў і сцен будынкаў невялікімі гурбамі. Каля сцяны сцелецца сіняя ноч. Над купалам царквы вісяць халодныя зоркі.

Айцец Дзімітры п'е гарбату. «Матушка» налівае з самавара і гасцям. Яны, чырвоныя і потныя, слухаюць яго настаўленні.

— Да вясны трэба так-сяк трымацца, а потым пабачым. За граніцай маўчаць не будуць. А як толькі вайна, дык наш сельсовет у першы дзень будзе вызвалены.

Айцец аглядаецца на завешаныя вокны. Доўга прыслухоўваецца, прыгнуўшы трохі галаву на левы бок. Апрача шуму самавара, нічога не чуваць.

— Вясною нешта будзе. Вайна немінуча. Увесь свет супроць тутэйшых парадкаў...

Голас айца шапатлівы і меланхалічны.

— Канец усяму-ж гэтаму павінен быць. Так цягнуцца доўга не можа...

Ён частуе гасцей папяросамі.

— У мяне іх цэлы запас. Яшчэ ўвосені купіў на трыццаць рублёў.

«Матушка» перагортвае старую «Ниву». Глядзіць на малюнкі ды любуецца:

— Вось прыгожа. А як пісалі даўней. Прыемна чытаць.

— Э-э-эх... — глыбока ўздыхае айцец Дзімітры і вачыма ўпёрся ў сцяну, нібы некага бачыць там жывога. Вочы ў яго павялічыліся, пацямнелі.

На дварэ скаголіць вецер.

Каля сцен царквы мільгаюць цені. Вось яны вызначаюцца чорнымі профілямі, а вось снег зноў закруціў, калматымі сівымі лапамі пачаў мацаць высокія сцены, давай пыліць па іх белай мукою.

І зноў нікога няма.

Толькі ноч, сіва-сіняя, глядзіць з усіх бакоў, вандруе па снежным полі ў абмерзлых лапцях. А з зажмураных

далячынь імчыцца вецер, імчыцца грозны і суровы і блытае па саламяных стрэхах свой заільдзянелы бурнос.

І думае айцец Дзімітры:

«Хутчэй ужо скінуць гэту агідную расу ды зноў апрануць блішчучы мундзір паручніка...»

Слуп і Бочка кураць папяроскі, зацягваюцца смачным дымам, і па іх тварах расплываецца прыемнасць.

— Даўно такіх добрых папярос не курыў.

— Аг-га...

Трывожна забрахаў на дварэ Мурза.

Акамянеў айцец Дзімітры і давай азірацца па баках.

Слуп і Бочка ўскочылі з табурэтак.

— Хто гэта можа быць? — устрывожылася «матушка» і адкінула ад сябе «Ниву».

Загаласілі, завылі на розныя галасы ўсе сабакі вёскі Глухаўкі.

У айца Дзімітрыя ледзь дрыгнула барада.

— Няўжо-ж... — прамармытаў ён... — Няўжо-ж вобыск?

Адну хвіліну прыціснуў стол правай рукой. Пальцы пабялелі. Супакоіўся:

— У хаце нічога не знойдуць. Няма чаго баяцца.

— Адчы-ні-і-це!

На ганку тупат ног. Увайшлі ў хату вайскоўцы-пагранічнікі.

У прытульны пакой увярваўся холад зімовай ночы.

Вочы ў людзей бліщчаць. На брывах срэбны шэрань.

Аж да поўдня круціла завея. Марозным подыхам яна імчалася па полі, па замеценых дарогах. Гурбы снегу наносіла на гумны, на вясковыя двары.

Мікола і Сакалоўскі сягоння яшчэ нікуды не выходзілі. Трэба ехаць у Мінск, а тут гэткае надвор'е.

Марцін лапатай пракопвае сцежку ад двара да гумна, а Мэра трымае на каленях Зорачку і кажа да Міколы і Сакалоўскага.

— Не бядуйце, пад вечар паедзеце. За дзень дарога палепшае.

— Навошта чакаць?

— Ды ўсёроўна адпачнеце. Гэтулькі ў нас працавалі. Ды як працавалі. Не елі, не спалі.

— Ну, гавары, гавары! Яшчэ што скажаш?

— Ахрып ты, Мікола, высах, аброс барадою.

Зорачка паўтарае за Мэрай:

— Дзядзя ахліп, высах, аб'ёс баядою...

Усе смяюцца.

— Аж неяк не верыцца, — кажа Мэра, — што ў нас ужо калгас. Здаецца, нічога не змянілася. ,

Вясною зменіцца. Тыя межы, якія цяпер занесены снегам, будуць заворaны. Іх знішчыць трактар.

— Мама, сьто такое т'яктай? — пытаецца Зорачка.

Не паспела Мэра адказаць Зорцы на гэтае запытанне, як у хату ўвайшоў «Леў Талстой».

Не сказаўшы «дзень добры», ён адразу запытаўся:

— Чулі?

— А што?

«Леў Талстой» да таго ўсхваляваны, што доўгі час атрасае нешта невідочнае з барады.

— Ды на вашай барадзе няма снегу! — смяецца Мэра.

— Так. А я, трэба прызнацца, мог-бы яшчэ доўга трэсці, бо яна белая сама па сабе, а я ўсё думаю, што на ёй снег. Так. Ух, ты! Забыўся, што мне даўно стукнула шэсцьдзесят год. Так. Мая барада і летам пакры...

— Дык раскажы, брат, у чым справа? Чаго прыбег так раптоўна? — зацікавіўся Мікола.

«Леў Талстой» наставіў на яго вочы, памацаў кішэні ды ўстрывожыўся:

— Ах ты ліха! Акуляры ў хаце забыўся!

— Раскажы без акуляраў, — параіў Мікола і ўсміхнуўся.

— Так. Сягоння ўночы быў вобыск у бацюшкі. Арыштавалі яго і Слупа і Бочку. Яны якраз былі на той час у яго хаце. Доўга шукалі, дык вось у царкве раскапалі нейкі стары склеп, а там знайшлі пудоў сто тухлага збожжа, шмат кантрабанды...

— Ого-го-о-о! Гэта дзела!

Мікола ўскочыў з свайго месца.

— Бачыш ты іх! Дзе-ж яны цяпер, арыштаваныя?

— Павезлі ў Шапалевічы — у раён. Так. А раскулачванне ідзе поўным ходам!

— Каб хаця Драчык не перахапіў мерку, — заўважыў Мікола. — Але не! Было ўсё гэта абмеркавана раней з удзелам раёна. Пагрэйся, стары, і назад туды пойдзем — у Гайдачаны.

— Не ў Гайдачаны, а ў «Першае мая». Так, — паправіў яго «Леў Талстой».

Як супакоілася завея, засвяціла яркае сонца. Бліскучы і крохкі снег сляпіў вочы. Мікола, Сакалоўскі і «Леў Талстой» ішлі ў «Першае мая».

«Леў Талстой» усю дарогу апавядаў падрабязнасці вобыска. Пры гэтым кожную хвіліну спыняўся і ўстаўляў у свой верставы маналог свежыя навіны:

— Ага, ледзь не забыўся. Так. Раскулачваюць сягонння Слупа і Бочку. Так.

Прайшлі яшчэ трохі і «Леў Талстой» зноў успомніў:

— Бацюшка, як кажуць, зусім не быў раней духоўнай асобай, а белагвардзейскім тоісь афіцэрам. Так.

«Вось табе «храм божы», — думае Мікола. — А хлебанарыхтоўкі? У кулака лепш згніе збожжа, а дзяржаве даць не хоча...»

— Ага, — перабіў яго думкі «Леў Талстой», — шмат золата знайшлі ў склепе пад царквою. Так. Бацюшка, тоісь афіцэр белагвардзейскі, тлумачыў, што золата і кантрабанду тут схаваў не ён, а Язэп Крушынскі.

Сельсовет перанеслі з Гайдачан у дом бацюшкі. Драчык яшчэ ўвосені збіраўся гэта зрабіць. Усё часу не было.

Царква зусім забыта людзьмі. Дзверы яе занесены снегам. Часта Драчык глядзіць на яе праз акно сельсовета. Яна мазоліць яму вочы.

І вось была пушчана пагалоска, што стары Сухарукі, адзін з бацькоў Драздоў і Дзятлаў, нейкім дзіўным зрабіўся. Пачаў гаварыць сам з сабою.

Быў адзін з гарачых дзён калектывізацыі ў Гайдачанскім сельсовеце. На двары выла, скаголіла і хадыром хадзіла мяцеліца. Вецер насвістваў па комінах заліхвацкія песні. Салома на стрэхах так шурхала, нібы там гойсала стада спалоханых авечак. Квахталі трывожным

квохтам старыя вароты. Гурбы снегу паўставалі дуба і падалі плазма ля сутулых бярозавых платоў раненымі белымі мядзведзямі, падалі і паўзлі ракам па дварах і гумнах. Гурбы снегу раздвойваліся, растройваліся, зноў сціскваліся ў адно і курадымілі пад акенцам.

Стары Сухарукі горбіўся ў кажуху на тапчане, зірк-зірк у шыбіну і мяцеліцы не бачыў. Перад яго зрокам і слыхам як наўмысна зазелянелася веснавая трава і заціўкалі жаўранкі. Над балотным абшарам шалясцела крыллем стада буслоў. А на полі за вёскай заворваюць у адзін абшар у даўжэзныя, як дзедава жыццё, барозны разам з суседнімі і яго вузенькія, бы ручнікі, палоскі...

Глядзеў стары Сухарукі ў акенца і праз каламуць і сляпніцу мяцеліцы адчуваў трывожную для сябе вясну.

— Крыжам лягу, а не дазволю!..

Цмокаў з засосам абгрызаны, абсмактаны цыбук старой са шматгадовым дурнапахам люлькі. А ў люльцы не было тытуну, яна не дыміла. Заядлы курэц не заприкмеціў...

Гэты дзень быў адным з гарачых у Гайдачанскім сельсовеце.

Калгасны актыў меркаваў розныя планы аб тым, як палепшыць жыццё Драздоў і Дзятлаў. Звінеў голас Антося Драчыка:

— Люблю праўду! Выкарчуем з нашай зямлі рэшткі мінулага! З карэннем вырвем! Люблю шчырасць, радавацца будуць людзі. Аратаі зменяцца ў нас, новымі стануць. Гэтага не ўцямяць хіба такія, як Сухарукі.

Блішчэлі радаснай дабратой шэрыя вочы Антося Драчыка.

Сухарукі пачаў рыдлёўкай раскопваць тое месца, дзе каля адзінокага дуба павінна быць мяжа аднаго з яго шнуроў, ледзь шырэйшага за мяжу.

Мяцеліца заскаголіла над старым, сарвала шапку з яго галавы і кудысьці занесла, закінула. Ён нават не запрыкмеціў... Завея кідала яму ў вочы белае пер'е, сля-

піла, ірвала з рук рыдлёўку. Дзед адкідваў, а завея намятала новыя гурбы. Дзед спацеў. Яму стала горача; ён расчыняе рот, і белыя мухі да балючай прыемнасці язык студзяць. Шамкае бяззубым ротам снежны пыл, нібы манную кашу. Капае рыдлёўкай, шуфлюе, згінаецца, гэхкае. Вось дабіраецца да чысцюткай зямлі, да святога святых яе грудзей, дзе ўвосені жыцянымі шпілечкамі выціснулася з-пад верхняй лушпінкі глебы скупая рунь кепскага насення.

Мяцеліца мяце, а дзед:

— Альба — альба...

Правая рука моцна рыдлёўку трымае, левая ледзь дапамагае. Дзед рупна скінуў кажух. Горача, непрытомна гараць вочы.

— Гэй, Галава, бацька Драздоў, дапамажы суседу!

Забыўся, што Галава ўжо зімуе першую зімку ў труне.

— Сухарукі забаламуціўся, — прынеслі навіну ў вёску. — У чыстым полі снег адкопвае з сваіх меж...

— Бедны... Стары кацялок не пераварвае, — гаварылі калгаснікі да Сухарукавага сына. — Няхай сабе дзед паасобку гаспадарыць.

— Дзе там яму гаспадарыць? — аж зазлаваўся той. — Мой стары з глуздоў з'ехаў. Нічым тут не паможаш.

У другі раз Сухарукі — старэйшы з роду Дзятлаў — у цёмную ноч пайшоў некуды. Хатнія не агледзеліся. Раптам пачулі людзі сярод ночы перакліканне званоў. Устрывожыліся, аглядаліся, ці не палыхае ў небе полымя пажару. Прыслухоўваліся, ці не чуваць крыку, гвалту. І пабеглі з усіх бакоў да забытай царквы.

На званіцы знайшлі адубелага ад марозу і зусім звар'яцелага Сухарукага. Ён упіраўся рукамі і нагамі ды не хацеў злезці.

Некаторыя старыя бабы пачалі прыдумваць новыя байкі аб «цудах божых».

Тады калгаснікі пастанавілі зняць званы.

## 41
## ЗРЫВАЮЦЬ МАСКІ

Якраз гэтай парою ўрываецца праз акно ў кабінет Антона Цярэшкі ранішняе сонца. Яно лезе на пісьмовы стол.

А калі ў гэты час Цярэшка сядзіць пры стале, яно грэе яму левую шчаку.

Сягоння на стале красуецца стопка кніжак — «Галасы палёў». На вокладцы — птушкі, падобныя да самалётаў, дзераўцы, падобныя да птушак, і хаткі, падобныя да дзераўцаў. Сонца з акна палажыла на вокладку кніжкі рыжую лапу і хоча замазаць вокладку новым колерам.

Учора Цярэшка дастаў на кніжнай базе дваццаць пяць экземпляраў «аўтарскіх». Каб даць кніжку з надпісамі «ад аўтара» толькі самым блізкім, дык набярэцца да сарака, і то яшчэ некаторыя будуць крыўдзіцца і будуць напамінаць:

— Дзядзька Цярэшка, чакаю кніжкі.

— Дзядзька Цярэшка, яшчэ мне не далі.

— Вы, пэўна, забыліся, дзядзька Цярэшка.

— Дзядзька Цярэшка...

Учора раздаў служачым на базе пяць экземпляраў.

Прычапіліся:

— Дайце, дзядзька Цярэшка. Мы пастараемся распаўсюдзіць вашу кніжку.

Ён наспех пісаў хімічным алоўкам. Пры гэтым непрыемна было пытацца як завуць. А прыходзілася. Ён пісаў:

«Ад аўтара»,

«На памяць»,

«Паважанаму»,

«Дарагому»,

«З пашанай».

Тое самае і ў кнігарні трэба будзе даніну аддаць. А як не дасі, калі ад гэтых «дарагіх» і «паважаных» залежыць продаж кніжкі? Купіш і дасі.

А вось упершыню Язэпу Крушынскаму не дасі.

Заўсёды той атрымліваў Цярэшкавыя кніжкі з самымі гарачымі надпісамі... Цяпер ён недзе далёка, дзе салаўі пяюць...

На дварэ сонца, мароз і вецер. У кабінеце сонца, прытул і цяпло.

Цярэшка пачынае пісаць надпісы на першай старонцы кніжкі пасля вокладкі. Пры гэтым у думках лаецца:

— Чорт ведае! Пішы вось... Куды лягчэй некалькі вершаў напісаць, чымся адно прысвячэнне на кніжцы. Трэба так пісаць, каб кожнаму трапіць пад яго густ, стукнуць цёплым словам у самае сэрца. Трэба...

Ён піша:

«Дзеду беларускага руху, рыцару адраджэння народа нашага, шаноўнаму і дарагому Н. . . . . . . .
Ад вас я вучыўся. Вы мяне, можна сказаць, выгадавалі. Заўсёды Вы мне надавалі натхненне сваім вогненым гарачым і родным словам. Прыміце «Галасы палёў» — думы сэрца майго — у знак найвялікшай да вас пашаны. Заўсёды Ваш

*Антон Цярэшка.»*

Цярэшка ведае: гэты дзядок-прафесар возьме кніжку, кінецца яму на шыю цалавацца і пачне ад чуллівасці выціраць вочы.

— Ідзі снедаць! — чуе Цярэшка з-за дзвярэй голас жонкі.

— Зараз пайду.

Піша на другой кніжцы:

«Бацьку «Нашае нівы». Найлепшаму майму настаўніку і бацьку духоўнаму, шчыраму ратаю на роднай глебе Н . . . . . . . . . . .

Буду лічыць за вялікі гонар, калі пачытаеце мае «Галасы палёў». Гэтыя вершы я пісаў, кіруючыся выключна Вашымі настаўніцкімі, каштоўнымі для мяне, парадамі. Ваш духоўны сын *Антон Цярэшка.»*

І Цярэшку добра вядома: гэты дзядзя скосу, адным вокам, зірне ў кніжку, падзякуе і моцна пацісне руку.

У кабінет усоўваецца хатняя работніца.

— Астыне гарбата. Пані Мар'я прасіла, каб ішлі снедаць.

— Добра...

І ён бярэцца за трэцюю кніжку:

*«Вялікаму Н . . . . . . . . . . .*

ад маленькага Цярэшкі. Адважыўся паднесці Вам свае «Галасы палёў». З сэрцатрапятаннем буду чакаць Вашага слова аб гэтай кніжцы. Ваша ацэнка для мяне той маяк, які ў далейшым будзе свяціць на маім творчым шляху. Хілю галаву перад вашым геніем. Ваш вучань

*Антон Цярэшка.»*

Гэты і на кніжку не гляне, пахваліць кніжку і яе змест, зірнуўшы толькі на вокладку, і скажа: «Як найхутчэй трэба апрыскаць вашыя «Галасы», а то ахрыпнуць. Хадзем пакуль што на кухню вып'ем, а там пабачым».

З-за дзвярэй чуваць голас жонкі. Ноткі нецярплівасці ў яе словах:

— Пойдзеш снедаць ці не?

— Адчапіся! — кажа Цярэшка. На чарзе ў яго чацвертая кніжка.

«Міламу і дарагому, шаноўнаму і паважанаму крытыку Гайдачу-Алалоўніку. Кіруюся ў творчасці выключна Вамі. Адважуся даць Вам «Галасы палёў» на строгі прысуд. Я ўпэўнены, што вы зразумееце аўтара і адчуеце «Галасы палёў» такімі, якімі яны ёсць. Калі мяне прызнаюць як паэта, дык дзякуючы Вашай глыбокай і трапнай крытыцы. Сардэчна і шчыра дзякую за Вашыя прыязныя адносіны да мяне на старонках друку. Адданы Вам, як нікому

*Антон Цярэшка.»*

А гэты? — О-го-го! Гайдач адразу прачытае прысвячэнне, напісанае аўтарам на першай старонцы аж тры разы адным махам, пакруціць па-гусінаму галаву і скажа: «Дзякую, дзякую, дзякую, дзядзенька Цярэшка!» Пачне трасці руку моцна, рупна прыгнецца і яшчэ раз падзякуе, выпрастаецца і яшчэ раз падзякуе, выпрастаецца і яшчэ раз. І будзе дзякаваць пры кожнай сустрэчы яшчэ некалькі дзён...

Ціхенька адчыняюцца дзверы кабінета, і Мзей, да-

чушка Язэпа Крушынскага, якая жыве цяпер у Цярэшкавых, кажа:

— Дзядзька Антон! Цёця прасіла, каб ішлі есці.

— Га-а-а? — усхапіўся Цярэшка. — Ідзі! Не перашкаджай!

Спалоханая Мзей спрытна, як мышка, высоўваецца з пакоя.

Цярэшка бярэцца за пятую кніжку. Доўга думае, курыць ды злуецца:

— Перашкаджаюць. Думкі перабіваюць.

Ён трэ левай рукою лоб і піша:

> «Дарагому і слаўнаму Лявону Максімычу Лапоўскаму. Лічу, што гэта кніжка не мая, а Ваша. Бо Вы сваімі гутаркамі, сваімі філасофскімі развагамі і чыста беларускай мудрасцю заўсёды...»

Раптам у кабінет урываецца бура некалькіх галасоў. Цярэшка аж ускочыў з свайго месца. Дзверы кабінета адчыніліся, і з сур'ёзным тварам і грознымі вачыма пані Мар'я несла шклянку гарбаты. За паняй Мар'яй работніца ўрачыста трымала невялікую тацу*. На тацы — булачка, сыр з маслам, каўбаса і хлеб. За работніцай ішла Мзей з абрусам у руках.

— Разумна прыдумана, — пахваліў Цярэшка і засмяяўся. — Я-ткі, па шчырасці кажучы, прагаладаўся. Каб да такой працэсіі яшчэ пару музыкаў і адну балерыну, дык можна было-б з прыемнасцю паснедаць.

— Кінь глупства гаварыць, а снедай! — загадвае пані Мар'я.

Мзей кладзе абрус на пісьмовы стол, на «Галасы палёў», работніца ставіць на абрус тацу з ежаю, а пані Мар'я — гарбату.

— Ой, абальецё мне ўсё гэта, — літасці просіць Цярэшка і бярэцца за снеданне.

Працэсія са смехам выходзіць.

У калідоры хрыпіць званок.

Мзей хутка прыносіць Цярэшку пошту: газеты, пару часопісаў і ліст.

Цярэшка адразу бярэцца за ліст. Глянуўшы на паш-

---

* Паднос.

товы штэмпель, кажа: «а-а-а, стары друг гадоў дзяцінства!»

Ліст ад Язэпа Крушынскага.

І Цярэшка думае. Думка яго ўдзячная.

«Малайчына Язэп! Сам пакутуе, а нашых не выдаў. Мог-бы гэтулькі бяды нарабіць...»

Вачыма прабягае па радках ліста:

«Як там Настачка і Мзей?

«Што там у Курганішчы цяпер робіцца?

«Сустрэўся з аграномам. Шле прывітанне. Я да гэтага часу блытаю Івана Мацвеевіча Шапавалава з Антонам Сяргеевічам Мятловым».

«Прышлі махоркі».

Зноў званок.

Нехта прыспешнымі крокамі ідзе адразу ў кабінет.

— Вы?

— Я.

Чалавек без знакаў прыпынку з партфелем у руках.

— Можа гарбаты выпʼеце?

— Дзякую. Я ўжо снедаў. Чыталі сягоння «Совецкую Беларусь»?

— Яшчэ не чытаў. А што?

— Там пра вашыя «Галасы палёў»...

Цярэшка паружавеў.

— Ну як? Хваляць? Лаяць?

— І тое і другое, а наогул добра... — Чалавек без знакаў прыпынку ўсміхнуўся. — Калі лічыць, што «іхняя» лаянка нам хвальба (для падтрымання настрою Цярэшкі ён сказаў «нам»), а так яно і ёсць, дык значыць хваляць...

— Паводле вашых слоў я разумею, што лаяць? — усхапіўся Цярэшка.

Чалавек без знакаў прыпынку выцер успацелыя акуляры і падслепаватымі вачыма зірнуў на Цярэшку.

— Зразумелі? Чудэсна! Добра, што зразумелі. Калі лаяць, дык «Галасы палёў» хутка разыйдуцца. Непакоіцца, дзядзька Цярэшка, нам няма чаго.

Тым часам Цярэшка непакоіўся. Снеданне ў горла не лезла. Ён узяўся за «Совецкую Беларусь».

Аб «Галасах палёў» быў надрукаваны артыкул на цэлы падвал. Паміж гонямі звычайнага корпуса дзе-ні-

дзе свежа ўзаранымі баразнамі вызначаўся чорны корпус. Дробнымі межамі мільгалі петытныя радкі — урыўкі з Цярэшкавых вершаў.

Спачатку Цярэшка пачаў лавіць вачыма чорны корпус:

«Гэта не галасы палёў, а галасы кулакоў».

«Аб чым паэт сумуе? Аб чым лье горкія слёзы? Сум яго — сум кулака. Слёзы — плач класавага ворага, які адчувае сваю немінучую пагібель».

«Цярэшка нам чужы».

«Нас толькі дзівіць, як гэта выдавецтва друкуе такія кніжкі з контррэволюцыйным зместам».

«Цярэшка, мабыць, сядзеў у кулацкім хутары, калі пісаў гэтыя вершы».

Пакуль што Цярэшка задаволіўся чорна-корпуснымі выняткамі з артыкула.

Пад артыкулам подпіс — Н. Бандарчук.

Цярэшка стукнуў кулаком аб стол. З яго горла вырвалася адно слова:

— Ха-ле-ра!

Чалавек без знакаў прыпынку з усмешкаю за ім назіраў.

— Дык чаго вы, дзядзька Цярэшка, хвалюецеся? Бандарчук добра зразумеў вашыя вершы.

— Яно так, але вось свой брат пісьменнік напісаў...

— Які ён там «свой брат», калі мы ў розныя бакі цягнем. Тут і брат не брат і сват не сват. А хто гэты Бандарчук?

— Белапавец.

— Вось бачыце, птушка з чужога гнязда.

— Я з ім вітацца не буду! Гаварыць з ім не стану! — Цярэшка яшчэ раз стукнуў кулаком аб стол і яшчэ раз сказаў:

— Ха-ле-ра!

Чалавек без знакаў прыпынку назіраў за ім з усмешкай.

— Я ўсё-ж не разумею, чаго вы, дзядзька Цярэшка, злуецеся? Вы «іх» дурнямі лічыце? Думалі, што не зразумеюць?

— Так то яно так, але...

— Супакойцеся...

Зноў званок.

Прышоў чалавек з вачыма сфінкса. Ён яшчэ не паспеў прывітацца, як запытаўся:

— Чыталі «Савецкую Беларусь»?

— Чытаў.

— Ну, дык не хвалюйцеся. Трэба прасіць Гайдача даць контркрытыку.

— Пабаіцца, — кажа Цярэшка. — Ён трымае нос па ветру. Цяпер, чаго добрага, лаяць пачне.

— Тады папросім Юбілейнага.

— Тое самае.

— Дык што-ж рабіць? — пытаецца чалавек з вачыма сфінкса ў чалавека без знакаў прыпынку.

— А нічога рабіць не трэба. На мой погляд, нават добра. Кніжка хутчэй разыйдзецца.

Тым часам пані Мар'я прынесла бутэльку віна і бакалы, падобныя да вадзяных лілеяў. Калі госці выпілі, вастрыня ўражання ад артыкула ступілася.

Цярэшка супакоіўся. А чалавек без знакаў прыпынку задумаўся, мэкнуў і сказаў:

— Дзядзька Цярэшка мае перад сабою ў недалёкай будучыні вялікія абавязкі, чымся пісаць «Галасы палёў». Не доўга нам чакаць прыдзецца. Тады нашыя «Галасы палёў» (ён зноў сказаў «нашыя») стануць падручнікам для маладых пісьменнікаў.

Ён выпіў яшчэ раз і давай раіць Цярэшку, як трымацца. Пры гэтым чалавек без знакаў прыпынку меў прывычку, калі гаварыў нешта сардэчнае, глыбокадумнае і высокаўзлётнае, выдаваць часта гук падобны да «м-м-м». Ён сказаў:

— Углыбіцеся, дзядзька Цярэшка, у сябе, м-м-м. Думайце аб вечным хараstве, м-м-м, на зямлі і няхай вам не перашкаджаюць драбніцы. Будзьце горды сабою. Усё рэшта, м-м-м, — трынь-трава!

Цяпер, як ніколі ў іншы час, чалавек без знакаў прыпынку быў падобны да апостала. Ён падняўся з месца з бакалам у руках і гаварыў сваё казанне:

— М-м-м... Калі гэтыя «Галасы палёў» нам цяпер непрыемнасці прынясуць, дык не трэба падаць духам. Панства духа бязмежна шырока, м-м-м, і духоўнага на свеце бязмежна шмат. Што такое па сутнасці дух?

М-м-м. Гэта спадчына, якую мы атрымалі ад прадзедаў на зямельцы роднай. Дух ваш, дзядзька Цярэшка, павінен, м-м-м, быць свабодным і мужным. Калі дух можа быць такім? Толькі, м-м-м, тады, калі ён абкружаны самім сабою і не цікавіцца вакольным. Так. Вакольным не цікавіцца. Духоўны свет трэба, м-м-м, шукаць у самім сабе.

Чалавек без знакаў прыпынку захапіўся сваімі ўласнымі словамі. У яго быў такі выгляд, нібы ў ката, які ўздумаў раптам лавіць свой уласны хвост. Ён трохі адпіў з свайго бакала і гаварыў далей.

Ніхто не пачуў, як рыпнулі дзверы кабінета ды ўвайшоў «прэм'ер» у белых манжэтах. Запрыкмецілі яго толькі тады, калі ён у Цярэшкі запытаўся:

— Чыталі сягоннешнюю «Совецкую Беларусь»?

— Глупства, — сказаў Цярэшка. — Марыська, будзь ласкавенька ды прыцягні сюды яшчэ адну бутэлечку... Пачакай, пачакай, Марыська! А як табе здаецца, ці не лепш будзе пару?..

Калі былі выпіты яшчэ дзве бутэлькі віна, «прэм'ер» з асаблівай уважлівасцю паглядзеў на свае белыя манжэты і сказаў:

— У нас хутка адбудзецца нешта горшае за крытыку «Галасоў палёў».

— Ну? — усхапіўся чалавек без знакаў прыпынку.

Усе насцярожыліся.

— Я чуў ад адной пэўнай асобы, што хутка пачнецца крытыка працы нашага інстытута за ўсе гады яго існавання. А там могуць дакапацца чорт ведае да чаго. Нават спецыяльная рабочая брыгада прымацоўваецца.

— Значыць, возьмуцца за галасы гарадоў, — пажартаваў чалавек без знакаў прыпынку.

— Жарты малыя, — уздыхнуў «прэм'ер». — Я анэгды зайшоў у кафедру марксізма-ленінізма, дык там на сталах выданні інстытута за ўсе гады.

Чалавек без знакаў прыпынку з нязвыклай для яго гуллівасцю міргнуў да Цярэшкі:

— Я сягоння аптымістычна настроены. Навошта псаваць добры настрой? Усё будзе добра! Гэта зіма будзе апошняй для нашага падполля. Вясною абавязкова пач-

нецца вайна, інакш быць не можа. А што такое крытыка ці самакрытыка? У найгоршым выпадку знойдуць памылкі ў нашай працы. Не раз знаходзілі. Прызнаваліся і рабілі новыя. Але каму прыдзе ў галаву бачыць у «памылках» нешта больш сур'ёзнае. Вы, дзядзька Цярэшка, як міністр асветы ў блізкай будучыні, вучыцеся, як выкрываць памылкі. Будзьце ўпэўнены, што пасля... і нам прыдзецца гэтым самым займацца (усе пачалі смяяцца). Смяяцца няма чаго. Міністру асветы трэба вучыцца, як выкарчоўваць кепскія ўплывы. Толькі я ўпэўнены, што Цярэшка не будзе гуманістам у гэтай справе. Жарты жартамі, а гэта зіма будзе рашучай для нас у найлепшым разуменні гэтага слова. Я містык, і маё прадчуццё падказвае тое, што ўсё будзе добра.

— А маё пачуццё, — задумёна закартавіў чалавек з вачыма сфінкса, — мне зусім іншае гаворыць. Сяголетняя зіма можа быць апошняй для нашага падполля, але ці будучая зіма будзе першай для нашай легальшчыны?

— Кіньце, дзядзенька, не трэба быць песімістам!

Чамусьці маленькі пакоік Янкі Малеўскага, сакратара ячэйкі інстытута, зрабіўся раптам самым прасторным. Нібы гэты пакоік сцен не меў, і ад яго былі адчыненыя хады ва ўсе кабінеты інстытута. Чамусьці Малеўскі быў рады як ніколі. Нібы ён знайшоў у моры месца варожых мін, і вось іх пачынаюць вылаўліваць, і караблю будзе цяпер усюды прасторная дарога.

Аднаго разу Мікола Ярэмчык зайшоў да яго.

— Што чуваць?

— Толькі што была тут рабочая брыгада. Яна пачала працаваць. Матэрыялы падрыхтаваны.

— Думаеш, Янка, табе не ўляціць?

— Усім нам уляціць. Усяму парткалектыву. Затое ачысціцца атмасфера. Я гаварыў з брыгадай аб усім адкрыта.

Ужо увесь інстытут ведаў.

У брыгадзе трое.

Адзін высокі, малады, чарнявы, з праніклівымі вачыма. Нешта ўсё пра сябе ўсміхаецца, нібы ведае, чым уся гэта музыка скончыцца.

Другі — сярэдняга росту і сярэдніх год. У яго вачах часта мяняюцца колеры. Рыжаватыя вусы і бародка клінам. Каб не рукі слесара, тоўстыя з цвёрдымі далонямі, у якія ўеўся чорны жалезны пылок, можна было-б падумаць, што гэта прафесар. Вельмі падобны да аднаго з гісторыкаў інстытута.

Трэці — з кучаравай галавою. Юнак. Сінія вочы. Строгія. Кастрычнік сустрэў яго, калі яму было не больш сямі год. Усім сваім узростам ён у новую эпоху ўвайшоў. Відаць, не з падатлівых. Упэўнены голас. Упэўненыя рухі.

Часта інстытутчыкі бачылі іх па калідорах: ад ячэйкі ў мясцком, ад прэзідыума ў кафедру марксізма-ленінізма. Заходзілі і ў кабінеты вучоных.

У некаторых інстытутчыкаў ліхаманкава блішчэлі вочы. Хто раней рэдка калі прыходзіў на працу, цяпер акуратненька адседжвае гадзіны пры сваім стале. У насценнай газеце «Навука і Праца» запярэсцілі цяпер куды вастрэйшыя артыкулы, куды больш дасціпныя карыкатуры: характарыстыка навуковых прац. Рэдкалегія працавала цэлымі начамі. Рэдкалегія бегала ва ўсе кабінеты.

— Давайце матэрыял!

— Сыпце, не гледзячы на асобы!

— Няма чаго цырымоніцца!

— Пішыце! Пішыце!

І ў скрынку з надпісам «Сюды апускаюцца матэрыялы» ляцелі паперкі, мяцеліца паперак, дождж паперак, страшныя паперкі. Ільічоўка зажыла новым жыццём. Штодня мяняліся матэрыялы. Штодня новыя каляровыя загалоўкі пярэсцілі нібы кінохроніка. У мастака «Навукі і Працы» пальцы былі ў розных фарбах. Адно вока ў мастака было бяльмістае, вечна здзіўленае, у колерах воблака. Другое вока — чорнае — блішчэла, як ніколі, ад радаснай таропнасці і ўзбуджанасці.

У вялікай грамадзе вучоных і аспірантаў «міністры» стараліся быць кроплямі ў моры, пясчынкамі на шырокім шляху, непрыкметнымі прыпісачкамі ў вялізным рукапісе. Між сабою ва ўстанове стараліся не сустракацца: «каб ніхто не падумаў»...

Тут пачаў гаспадарыць строгі гаспадар...

Цярэшка сядзіць у сваім кабінеце і курыць папяросу за папяросай. Яму прыносяць гарбату. Ён не п'е — гарачая. Чакае, пакуль астыне. Стаіць шклянка гарбаты некалькі гадзін на яго стале, пакуль зноў не забяруць.

— Чаму не пілі?

— Халодная.

Цярэшка глядзіць у акно: дахі абтрушаны снегам. Дахі нагадваюць калоды карт: хто выйграе?.. Дзе-ні-дзе, у аддаленні вокагляду, з акна трэцяга паверху відаць кучаравыя дымкі. Яны вечна дымяць з фабрычных комінаў, і Цярэшка думае:

«Гэта адтуль прышлі гаспадары. Прышлі і цэлы перапалох у нас зрабілі. А Малеўскі радуецца і радасці сваёй не хавае».

І Цярэшка забыўся цяпер зусім пра Язэпа Крушынскага, і нават «Галасы палёў» выскачылі з галавы. Так і не дапісаў прысвячэнняў «ад аўтара». Нават не раздаў кніжак з напісанымі прысвячэннямі.

Падае крупчасты, як рыс, сняжок. Дробным градам мільгае перад вокнамі.

...Прышлі гаспадары...

...Круг звужаецца...

Цярэшка ўспомніў Крушынскага:

«Цяпер яму куды-куды лепш, чым мне. Спакойна жыве на новым месцы. А я? А мы? Ці ўдасца нам? Ці пераскочым гэты круг?»

Яму пачало здавацца, што вось-вось сарвуць з яго вопратку, ён захоча затушавацца і месца не знойдзе; стане клапом і шчылінкі не знойдзе...

Прышлі гаспадары.

Асаблівым жыццём жывуць цяпер напоўзмрочныя калідоры інстытута. Яны падобны да прыгарадных закавулкаў, дзе праходжыя заўсёды з апаскаю праходзяць. Яны такія, што па іх не можаш пазнаваць пагоды, не ведаеш — раніца, поўдзень, вечар. Заўсёды цені. Тут часам бачыш трывожныя вочы і чуеш трывожныя шэпты. Ходзяць на цыпачках, нібы ў шпіталі, дзе ў палатах ляжаць смяртэльна хворыя. А падлога ў калідорах старога мура як наўмысна крэхча пад нагамі. Водгаласкі людскіх крокаў вандруюць з канца ў канец. Містыка калідораў. А калі тут праходзіць брыгадная тройка, містыка на-

хіляе змрочную галаву і губляецца, як сон. Гучныя галасы, упэўненыя крокі. Хто зазірае тройцы ў вочы зладзейскім ледзь прыкметным позіркам, каб па выразу твараў улаўліваць настрой. Хто тульгаецца і праскоквае, нібы ад пажару ўцякае. Хто робіць штучны незалежны выгляд і не ведае, дзе свае рукі дзець, рукі раптам лішнімі робяцца, і ён імі па-вайсковаму размахвае. Хто перакінецца ветлівым словам з брыгадай. Відаць, ужо гаварыў з гэтымі людзьмі. Відаць, што свае.

Прышлі гаспадары.

Лысіны розных формаў, твары розных узростаў і стыляў нагінаюцца над кнігамі і рукапісам. Глядзяць адны на адных з запытаннем:

— Што чуваць?

— Хто яго ведае.

Знакамітыя анекдатысты інстытута — адзін чарнявасівенькі эканаміст, другі бландыністы залатазубы гайдачаназнаўца — не разносяць па кабінетах на снеданне штодзённай порцыі свежых анекдотаў. Ды іхнія ранейшыя анекдоты на трамвайныя канкрэтныя тэмы не апраўдаліся. Рэйкі на вуліцах Мінска не засталіся ляжаць да трэцяй пяцігодкі... Самі анекдатысты ездзяць трамваем на працу. Яны-б можа выціснулі з сваіх мазгоў анекдоты аб рабочай брыгадзе, але...

Прышлі гаспадары.

Круглы і лысы сядзіць у сваім кабінеце. Калі хто да яго заходзіць, дык ён таго сустракае:

— Грахі... Грахі...

Сумныя і жаласлівыя вочы круглага і лысага ветліва просяць садзіцца на мяккае скуранoe крэсла і без слоў гавораць:

— Грахі... Грахі...

Ён пачынае гутарку на розныя тэмы ды з затоеным стогнам усё варочаецца да галоўнага:

— Грахі... Грахі...

Многія з прафесуры радуюцца прыходу гаспадароў разам з Малеўскім, Ярэмчыкам і Сакалоўскім. І ў кабінетах сустракаюцца і перакрыжоўваюцца між сабою вочы. У адных радасць, у другіх трывога.

З тых месц, адкуль праз вокны інстытута відаць за-

лымленыя фабрычныя коміны, прышла сюды ўпершыню за ўсе гады рабочая брыгада.

— Гэта мне не падабаецца, — сказаў чалавек без знакаў прыпынку. — Навошта смецце з хаты выносіць? Навошта пераносіць крытыку прац інстытута ў рабочы клуб? У нас такі вялізны зал.

Ён быў абураны. За некалькі тыдняў працы рабочай брыгады ў дыпламатычнай барадзе чалавека без знакаў прыпынку сівізна ўзяла верх над чарнізнай.

— А мне не падабаецца ўся гэта крытыка. Ды што ты тут, чалавеча, зробіш? У нас аб гэтым не пытаюцца, — заўважыў чалавек з вачыма сфінкса.

І яго сінія вочы паблеклі за гэты час, іхні колер стаў падобным да аблезлага паркалю.

Чалавек без знакаў прыпынку меркаваў:

— Каб нам нерваў не псаваць, не будзем хадзіць у гэты рабочы клуб.

Чалавек з вачыма сфінкса пачаў ірытавацца:

— Нам-жа трэба ведаць, чым усё гэта пахне для нас. Няхай хоць адзін з нашых возьме на сябе гэты цяжкі абавязак. Хто-ж ад нас будзе хадзіць у рабочы клуб?

— Я-а-а!

У гэтым «я-а-а!» чулася радасць адвагі, боль ахвяры і цвёрдасць абавязку.

— Я буду хадзіць у рабочы клуб, — сказаў Антон Цярэшка.

— Вельмі добра!

— Чудэсна!

І Цярэшка хадзіў.

Для гэтай справы, каб быць непрыкметным, ён апрануўся ў «спецвопратку» — з ваннай дастаў пятнаццацігадовае старое паліто, а «рабочую» кепку знайшоў у калекцыі сваіх старых шапак. Для большай натуральнасці ён бязлітасна камечыў яшчэ зусім прыстойную кепку, паздзекаваўся, быццам кат, над цвёрдым брылікам: паламаў, пакрамсаў яго на анучу і са злосцю насунуў на галаву «рабочую» кепку, брылік, на самыя вочы. Калі ішоў па вуліцы, дык задзіраў галаву, нібы толькі небам цікавіцца.

І вечары ў рабочым клубе цягнуліся перад Цярэшкам адным доўгім-доўгім, нібы вечнасць, вечарам. Адзін і той самы новенькі бліскучы трамвай імчаў Цярэшку туды і назад. Паліто і кепка — у адмысловым стылі — надавалі яму такі значны выгляд, што пасажыры ціскалі плячыма, уступалі яму месца і стараніліся ад яго... Ад заклапочанасці пераапрануты каліф гэтага нават не запрыкмеціў. У клубе — адзін і той самы прэзідыум: рабочая брыгада, наборшчык Сакалоўскі, Мікола Ярэмчык, круглы і лысы старшыня інстытута і Янка Малеўскі. Адна і тая самая аудыторыя — вялікая грамада рабочых: мужчыны і жанчыны рознага ўзросту і выгляду. Адна і тая самая ўважлівасць аудыторыі да дакладчыкаў. Адно і тое самае здзіўленне Цярэшкі: «бач, як рабочыя цікавяцца навукай». Уражанне аднаго доўгага вечара яшчэ ўзмацнялася тым, што ва ўсе гэтыя вечары падаў цвёрды крупчасты сняжок, і каля клуба, пры яркім асвятленні электрычных ліхтароў, сняжок здаваўся квола-ружовым, цёплым і прытульным. Сур'ёзныя даклады канчаліся кожны раз выбухам гарачых спрэчак. Мікола Ярэмчык быў сакратаром. Аловак яго спрытна соўваўся па шырокіх аркушах паперы ледзь прыкметнымі зігзагамі. Вочы яго былі апушчаны ўніз, і русы чуб затуляў лоб і кідаў на твар да самай барады шэраваты цень.

Назаўтра раніцою, пасля кожнага вечара, Антон Цярэшка прыносіў сваім кароткія вусныя справаздачы:

«Сакратар ячэйкі ў сваім дакладзе падзяліў навуковых працаўнікоў інстытута на людзей шчыра адданых совецкай уладзе, якія прыносяць карысць сваёй працай, на людзей лаяльных і — такіх, у каго памылкі ўваходзяць у сістэму. Апошніх ён называе шкоднікамі. Усыпалі ячэйцы, што да гэтага часу па-апартуністычнаму адносілася да падбору працаўнікоў».

«Круглы і лысы ў дакладзе аб працы інстытута каяўся ў грахах і падаваў надзею, што ўсё наладзіцца, усё будзе добра».

«Расчыкрыжылі некаторых гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, мовазнаўцаў, аграрнікаў, гайдачаназнаўцаў, ды іншых знаўцаў».

«Крылі беларускі буржуазны нацыяналізм, вялікадзяржаўны расійскі шавінізм».

Весткі сыпаліся, як гарох з вялізнага мяшка.

Пры гэтых інфармацыях голас, тон гутаркі і манеры Цярэшкі набывалі ўсё больш аднастайны характар: ён іранізаваў і злаваўся. Іронія пераходзіла ў злосць, злосць — у іронію. І адно і другое ў нейкую акамянеласць і апатыю.

— Значыць, пух і пер'е з нас ляціць, — кожны раз рэзюмаваў чалавек без знакаў прыпынку.

І вочы, падслепаватыя вочы, з-пад шкелак акуляр зрабіліся вачыма сфінкса.

А твар чалавека з пастаяннымі вачыма сфінкса траціў свой заўсёдны выраз. І ён картавіў:

— Ці дачакаемся лепшых часоў?

— Дачакаемся!

І зноў Антон Цярэшка ў рабочым клубе.

Ён ужо ведае тут усе куткі, усе пакоі і пакоікі, прагледзеў усе плакаты на сценах, усе партрэты. Ведае, дзе, калі, які гурток тут працуе. А ў зале ён аблюбаваў сабе месца недалёка ад дзвярэй, каб калі-ні-калі шмыгнуць з зала ў буфетны пакой, з буфета ў зал. Тут бываюць добрыя яблыкі, някепскія бутэрброды і колькі хочаш папярос. Ён углядаецца ў незнаёмыя твары мужчын і жанчын і шукае сярод іх «асаблівасцей рабочага тыпу»...

У зале цішыня. Толькі калі-ні-калі цішыню прарэзвае прыглушаны рукою адзінокі кашаль. Голас апошняга прамоўцы асабліва грозны. Ён ўжо даўно гаворыць і тону не мяняе. Нібы роўныя хвалі расплываюцца над галовамі аўдыторыі.

— ...Я, таварышы, рабочы. Не бяруся сам крытыкаваць навуковыя працы інстытута. Але паводле водзываў нашых кампетэнтных таварышоў, якія тут выказваліся ўсе гэтыя вечары, відаць, што ў інстытуце справа пастаўлена горш, чым дрэнна. У мастацтве займаюцца вывучэннем цэркваў і касцёлаў. Выключна! Аб іншым ані шыш! У аграрных працах апраўдваецца прышчэпаўшчына. Пад выглядам «культуры» расхвальваюцца кулацкія хутарскія гаспадаркі. У гісторыі адмаўляецца класавае змаганне на Беларусі, ідэалізуецца «беларуская соцыялістычная грамада». Праз меру захапляюцца старасветчынай, а пра сучаснае забываюць. І так у іншых галінах навукі. Напрыклад, мовазнаўства.

Цярэшка апусціў галаву. У яго ёкнула сэрца. Якраз ён працуе ў кафедры мовазнаўства. У твар прамоўцы ён ні разу не зірнуў, бо і так добра ведае наборшчыка Сакалоўскага. Паветра ў зале здаецца Цярэшку такім гарачым, што ўсё цела ў яго гарыць. Голас прамоўцы раптам пачаў рэзаць пілою па самым горле Цярэшкі.

— Па-іхняму выходзіць, што па-беларуску слова «пролетарыят» — «убоства». Чулі? «Убоства!» (З розных бакоў па зале сыплюцца пырскі смеху). Няўжо-ж, таварышы, гэта не кулацкая кпінка над нашым братам? Беларуская мова мае лепшыя словы для рабочых. Але «мовазнаўцы» тых слоў чамусьці не знаходзяць.

Цярэшка зірнуў на сцэну з-пад скамечанага брыля: вочы ў Сакалоўскага блішчэлі ад гневу. Ён адпіў вады са шклянкі, ахапіў зал пацямнеўшым позіркам, нібы хацеў уміг упітаць у сябе рознастайныя выразы некалькіх сот вачэй. Яму здавалася, што Сакалоўскі спыніў на ім свой позірк даўжэй і больш пранікліва, чым на іншых, і Цярэшка прыгнуў галаву за плечы суседа на пярэдняй лаўцы. «Гаворыць, як гаспадар», — падумаў ён. Многалюдны зал маўчаў у нейкім драматычным і нецярплівым чаканні. І здавалася: мучыць яго гэтае маўчанне, не вытрымаюць людзі на лаўках і зараз крыкнуць у адзін голас: «Прэч такіх шкоднікаў з совецкай установы!»

— ... Дык вось, таварышы, мы павінны запытацца, чаму ячэйка да гэтага часу не прыняла больш рашучых мер супроць такіх прац? Нас не здавальняе механічная, сухая справаздача ячэйкі (з яго горла вырваўся крык). Не зда-валь-ня-е! Мы знаем таварыша Малеўскага, як заслужанага старога большэвіка, але ён тут не гаварыў нам аб усім. Ці можа яму цяжка разбірацца ў тонкіх справах навукі? Гэта нам сягоння ўсёроўна. Гэта справы не мяняе. Але дзе былі вочы прафесароў з кафедры марксізма-ленінізма? Тое, што гэта кафедра зрабіла цяпер дзеля рабочай брыгады, павінна было праводзіцца ёю ў штодзённай працы. А то выходзіць нейкае далікатненькае раскланьванне між «калегамі». (Пры гэтым Сакалоўскі робіць камічны рэверанс. Чуюцца смяшкі.) Гэта горш за апартунізм! Горш, таварышы!

Словы Сакалоўскага гарачым градам сыплюцца па галовах рабочай аудыторыі. Твары напружаныя і сур'ёз-

ныя. Усе слухаюць са сцятымі губамі. Мікола Ярэмчык старанна запісвае. Ён праз меру нагнуўся над паперай. Русы чуб яго вісіць над вачыма, як ільняная заслона. Малеўскі яму нешта шэпча на вуха. Твар у яго вясёлы, як ніколі раней.

І дзівіцца Цярэшка:

«... Яго сягоння так драпанулі, а ён вось радуецца. Не магу зразумець гэтых бальшэвікоў...»

Недалёка ад Цярэшкі сядзяць дзве жанчыны. Адна пажылая, у хустцы. У яе круглы твар і сінія кплівыя вочы. Вакол вачэй ледзь прыкметная сетка маршчынак. Поўныя чырвоныя губы. Яна ўсё ціскае плячыма і закладвае крысы свайго шэрага паліта адну на адну, нібы ёй вельмі холадна. Другая жанчына маладзейшая. Чорная, як воронне крыло, стрыжка ўздзёрнута ззаду. Футровы пышны каўнер не дае валасам ляжаць прыгладжанымі на месцы. Яе вялікія, ледзь выпуклыя, чорныя вочы як-бы засмучаныя. Вуглы тонкіх губ часта уздрыгваюць.

— А-ей, што ў нас робіцца! — дзівіцца старэйшая.

— А што? — пытаецца маладзейшая.

— «Убоствам» нас называюць.

— Аднак тут цікавыя рэчы гавораць. Ведаеш што, хадзем, убоства ты маё, у буфет. Есці захацелася.

— Ах ты! Я табе дам «убоства»!

— Тут ужо нічога не зробіш, калі вучоныя людзі так пастанавілі, дык з сягоннешняга дня апрача «ўбоства» іншага слова ад мяне не пачуеш, маё ты пяціпудовае ўбоства!

— Апрача ўбоства думак, я ад цябе нічога і не чула.

— Ну, ну! Пакрыўдзілася.

Абедзве жанчыны, смеючыся, пайшлі ў буфет.

І дзівіцца Цярэшка, што пролетаркі паміж сабой па беларуску гавораць. «А паводле тэорыі нашых...»

Як наўмысне і іншыя пачалі між сабою гаварыць па-беларуску. Быў зроблены кароткі спынак. З зала высыпала шмат народу, рассяяліся па ўсіх пакоях. Курылі, падмацоўваліся каля буфета. Пасля напружанай уважлівасці ў зале пачалося вялікае ажыўленне. Гул галасоў плыў з усіх пакояў і зліваўся ў адзін роўны шум.

Цярэшка адчуў сябе адзінокім у гэтай грамадзе. Ён усеўся на плюшавым крэсле пад вялікім фікусам, нібы

пад трапічнай пальмай у сонечны дзень, і пачаў думаць над сваім сапраўды ўбоскім становішчам у гэтым рабочым клубе. Ён пускаў папяросны дым з акругленых трубкай губ сінімі кольцамі і думаў над словам «убоства». Прыпомніў дзядочка-латыніста з узгоркам старых слоўнікаў на стале. Успомніў, як гэты здзяцінелы дзядок плёў перад ім філалагічную нітачку:

— Пролетарыят—нова-латынскае слова «proletarius», што азначае беднасць. Як па нашаму «беднасць»? — убоства! Дык няхай будзе «ўбоства»! Хэ-хэ-хэ...

Ад радасці, што трапіў якраз у пункт, дзядок засмяяўся і праслязіўся, выцер вочы і прыгожым каліграфічным почаркам запісаў:

«Пролетарыят — убоства».

Слоўнікавая камісія прыняла гэтае ды іншыя падобныя словы з вялікай радасцю. Якраз па густу.

І вось вышла — убоства...

Клубны круглы гадзіннік паказваў адзінаццаць. З прэзідыума пачулася дзынканне званка. Хваля людзей з усіх пакояў зноў паплыла ў зал. Хутка ўсе расселіся па ранейшых месцах.

Выступіў новы прамоўца — старшыня рабочай брыгады. Высокі, малады і чарнявы, з праніклівымі вачыма. Ён усміхнуўся і пачаў гаварыць, стаўшы ў профіль да аудыторыі:

— Я, таварышы, сягоння буду старацца гаварыць як найкарацей, бо ўжо адзінаццаць гадзін, а тых, хто яшчэ запісаўся, адложым на заўтра, бо нашаму брату прыдзецца рана ўстаць на працу. Усе згодны, таварышы?

— Добра! Згодны! — пачулася некалькі галасоў.

Голас прамоўцы быў спачатку сухаваты і ціхі.

— Дык вось. Безумоўна, у першую чаргу будзем крыць увесь парткалектыў інстытута за нядбайныя адносіны да таго, што там рабілася. Безумоўна, партыйнага кіраўніцтва там не адчувалася. Аднак трэба памятаць, што многія з партыйцаў, — і, галоўным чынам, таварыш Малеўскі, — шмат дапамагалі нашай рабочай брыгадзе ў яе працы. Трэба ведаць, што таварышу Малеўскаму цяжка было арыентавацца ва ўсім гэтым. Усё-ж такі таварыш Малеўскі не раз біў трывогу, і яго меркаванні

аказаліся правільнымі. Я вось звярнуся да слоў папярэдняга прамоўцы — таварыша Сакалоўскага.

— Галасней! Галасней! — папрасілі з задніх лавак.

Старшыня брыгады набраў у сябе паветра і выпяў грудзі наперад. Яго голас пачаў звінець.

— Таварыш Сакалоўскі гаварыў правільна, але чамусьці не давёў думкі да канца. Вялікая большасць шкодных прац інстытута належыць якраз да былых «міністраў», «прэм'ераў» і «маршалкаў». (Пры гэтым яго губы грэбліва скрывіліся. Яны выразілі такую агіду, што Цярэшка ў гэту хвіліну гатоў быў яго забіць, задушыць, застрэліць і павесіць...) Гэтыя паночкі ў свой час вялі заядлае змаганне супроць дыктатуры пралетарыята. Рознымі спосабамі яны стараліся задушыць пралетарыят, якога, да слова кажучы, не здарма яны цяпер называюць «убоствам». Гэта ад вялікай «сімпатыі». Яны паслалі кайзеру Вільгельму тэлеграму, у якой дзякавалі за вызваленне ад большэвікоў, яны перад Пілсудскім на задніх лапках стаялі і, дзякуючы ім, не мала лішняй крыві пралетарыя:: праліў на тутэйшых франтах.

На лаўках пачалася мітусня, шорханне, выкрыкі абурэння.

— Ціха, таварышы! Ціха!

Поўхвіліны гучэў званок. Зал ледзь супакоіўся. Прамоўца пачаў лагодным голасам. Цішыня ў зале настала цяпер такая, што ні поўслова прамоўцы не было не дачута. Лавілі прагна кожны гук.

— Калі ім — былым кайзераўцам і пілсудчыкам — савецкая ўлада даравала грахі і прыняла на працу, дык улада спадзявалася, што яны выправяцца і будуць шчыра працаваць на карысць пралетарыята. Аднак яны працягваюць сваю ранейшую контррэвалюцыйную дзейнасць. (Голас яго зрабіўся грозным. Ён увесь змяніўся ў твары.) Яны займаюцца шкодніцтвам у навуцы. Яны працуюць на руку ворага пралетарыята! І зусім магчыма, што яны рыхтуюцца тут да інтэрвенцыі. Вось табе ў адным цёплым месцы цёплая кампанія з «маршалкаў», «міністраў» і «прэм'ераў» — гатовенькі ўрад! Да іх вярнуліся іхнія старыя прыяцелі з-за межаў...

Прамоўца спыніўся і запытаўся грозным голасам:

— А можа яны падзялілі ўжо між сабою старыя партфелі, а для нас, рабочых, шыбеніцы будуюць?

Зноў на лаўках пачулася мітусня, але адзін аднаго прасілі, каб было ціха.

Цярэшка пачырванеў. Ён ніжэй насунуў на лоб «рабочую» кепку. Яму стала і горача і холадна. У аудыторыі адчувалася такая напружанасць, што здавалася, усе зараз ірвануцца з месца.

— Я не бяру на сябе адказнасць, — пачаў прамоўца мякчэйшым тонам, нібы апраўдваючыся, — сказаць упэўнена, што так яно і ёсць. Аднак на Украіне так і было. Можна думаць, што і ў нас так можа быць. (Ён прыкметна хваляваўся, быў бледны і відаць было, што стараецца супакоіць самога сябе.) Таксама, таварышы, у інстытуце ёсць некалькі чалавек з душком вялікадзяржаўнага рускага шавінізма. Гэтых мы таксама па галоўцы не пагладзім. І — «лаяльным» мы скажам: «альбо з намі — альбо»... Сярэдзінкі ў гэты востры час класавага змагання быць не можа! Нам патрэбны ў навуцы пралетарскія кадры. Да гэтага часу на аспірантуру звярталася мала ўвагі.

Тут Цярэшка, які сядзеў каля дзвярэй, ціха высунуўся з зала.

І не чуў Цярэшка, як пасля старшыні брыгады выступіў адзін навуковы працаўнік з сівенькай бародкай клінам. Той з абурэннем у голасе сказаў:

— Калі ў нас ёсць такія, дык трэба вызваліць ад іх пралетарскую навуку і пралетарскую грамадскасць наогул!

Каб Цярэшка чуў, дык сказаў-бы:

— Наш брат вучоны супроць нас так жорстка выступае.

А чалавек без знакаў прыпынку яму-бы тлумачыў:

— Цяпер і брат — не брат, і сват — не сват.

І не чуў Цярэшка, як рабочыя, не гледзячы на тое, што трэба раненька ўстаць на працу, прасілі, каб выступілі сягоння-ж і тыя, якія ўжо запісаліся.

Цярэшка сеў у трамвай і паехаў дамоў з цяжкім каменем на сэрцы і трывожным запытаннем:

— Ці дачакаюцца нашыя партфелі?

Трамвай шпарка імчаў яго наперад. Цярэшка пачаў

абціраць снег з паліта. Успомніў, што на ім старая «спецоўка» для рабочага клуба, махнуў рукою і давай прыглядацца да пасажыраў з захаванай апаскай. Яму здавалася, што кожны з іх чытае яго думкі.

— Дык цябе, Янка, супроць шэрсці гладзяць? — звярнуўся Мікола Ярэмчык да Малеўскага пасля аднаго з гэтых вечароў. — Трымайся, матрос!

— Лепш няхай нашы мяне б'юць, чымся каб тыя цалавалі, — сказаў Малеўскі. — Я рабіў усё тое, што было ў маёй магчымасці. А што гэта ў цябе, Мікола, за пакет тырчыць з кішэні?

— Ліст з вёскі. Няма калі чытаць. Добра, што ўспомніў.

Мікола раскрыў канверт. Ліст быў ад швагера Марціна. Той пісаў:

«Дарагі Мікола!

Праца ў нас кіпіць. Рыхтуемся да веснавой сяўбы. Трыеры з комуны «Чырвоны Кастрычнік» працуюць поўным ходам. Кончыўшы з абагульваннем, калгаснікі цяпер возяць лес на новыя хлявы ды на іншыя патрэбы. Да нас цяпер прыехала рабочая брыгада і дапамагае ў працы. Антон Драчык працуе з усіх сіл і ўдзень і ўночы, ніколі аддухі не мае. На паседжаннях сельсовета ці праўленняў нашых новых калгасаў ён выстаўляе для абмеркавання такія цікавыя планы, ажно многіх радасць прабірае. Аднак некаторыя выпісаліся з калгасаў, і ў сувязі з гэтым было шмат непрыемнасцей. Вясною прышлюць нам з Украіны сто цялушак і некалькі заводных свіней. З раёна нам абяцаліся даць некалькі сот пудоў штучнага ўгнаення. Усё ідзе не кепска. Я ўпэўнены, што праз год забудуцца старыя назвы вёсак Гайдачанскага сельсовета.

Усе мае жывы і здаровы. Мэра і Зорачка табе кланяюцца. Зорачка просіць, каб ты купіў ёй трактар у Мінску. Вось табе і малыя дзеці аб трактарах загаварылі! Праўда?

Ага! Яшчэ адна навіна. Пры абагульванні вельмі шмат працаваў стары Гарбочык з белай барадою. Памятаеш яго? Усе ў нас завуць яго «Леў Талстой». Ён пра-

студзіўся, хварэў некалькі дзён і памёр. Перад смерцю цябе бачыць хацеў. Ён мне перадаў для цябе свае рукапісы. Іх вельмі многа. Страхоццё, як многа! Прасіў, каб ты іх надрукаваў у Мінску.

І яшчэ адна навіна! З царквою ў нас пакончана. Нога папа няма. Некаторыя з калгаснікаў паляць абразы. І вось між старымі і маладымі адбываюцца вялікія спрэчкі, якія часам даходзяць да боек.

І яшчэ адна навіна! Стары дзед Сухарукі звар'яцеў. Дык вось, Міколка, што ў нас робіцца. Яшчэ нейкія цёмныя сілы стараюцца баламуціць нашых сялян, але нічога! Перамога на нашым баку! У калгасе «Чырвоная Ніва» скінулі старшыню. Помніш, як ён на сходах вырабляўся, крычаў, што толькі ў калгасах усім добра будзе і запісаўся адным з першых. Дык вось што ён зрабіў — прысвоіў сабе шмат маёмасці раскулачаных ды кожны дзень ладзіў вечарынкі ў сваёй хаце. Вось і вер! Яго, вядома, выкінулі з калгаса. Трэба пільна сачыць за тым, каб кулацкія агенты не ўлезлі ў калгасы. Можа вырвешся калі сюды на некалькі дзён?»

Мікола толькі ўсміхнуўся на гэта запрашэнне.

— Дзе тут паедзеш, калі ў інстытуце гэтулькі цікавага! Інстытут хутка будзе адноўлены...

## 42

## НЕ СПІЦЬ ВАРТА

У неахопным моры часу зімовыя дні 1930 года зыбаліся пеністымі грэбнямі хваль. Чаргаваліся ў сварцы між сабою адліга і мароз. Сонца цяплела з кожным новым цвіценнем усходу і заходу. З кожным разам яно круглiла агнёвым цыркулем па надгалоўным бязбрэжжы шырэйшыя кругі. Вятры — вільготныя і сухія — імчалі пад сінімі і залацістымі парусамі новую вясну бальшэвіцкай пяцігодкі.

За шпаркай хадою часу, зацугленага ў чырвоныя дэкады, не паспявалі паэты.

І дні нараджаліся, і дні адыходзілі ў мярэжныя далягляды, і дні расцiралі ў пыл трухлыя карчы, і дні бу-

